ВІКТАР АНАТОЛЬЕВІЧ ШНІП
НАРАДЗІЎСЯ 26 САКАВІКА 1960 ГОДА
У ВЁСЦЫ ПУГАЧЫ НА ВАЛОЖЫНШЧЫНЕ.
ВУЧЫЎСЯ Ў МІНСКІМ
АРХІТЭКТУРНА-БУДАЎНІЧЫМ
ТЭХНІКУМЕ.
ЦЯПЕР ПРАЦУЕ ЦЕСЛЯРОМ
НА БУДОЎЛЯХ МІНСКА.
ВЕРШЫ ВІКТАРА ШНІПА
ДРУКАВАЛІСЯ Ў ЧАСОПІСАХ
«ПОЛЫМЯ», «МАЛАДОСЦЬ»,
«БЕЛАРУСЬ»,
«РОДНАЯ ПРЫРОДА»,
«РАБОТНІЦА І СЯЛЯНКА»,
«БЯРОЗКА», «ВЯСЁЛКА»,
У ШТОГОДНІХ ВЫДАННЯХ
«ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ».

## ПЕРШАЯ БАРАЗНА

Скібу чорнай глебы —
цяжка мне —
Абкладаю даланёю плуга.
Конь ідзе па свежай баразне —
Над спіной яго ўладарыць пуга.
Па раллі за мной бягуць шпакі,
Між сабой гамонячы шумліва.
Сёння, нібы мама з-пад рукі,
Раніца глядзіць шчасліва.
Адчуваю, што іду раўней.
Баразна мае цалуе ногі.
І цяжэйшай не было ў мяне
Вось за гэту баразну дарогі.

* * *

Зярнятак жменю я трымаю
І праўду тую паўтараю:
Зярнятка — гэта важкі колас,
А колас — хлеб — няма смачней.

А хлеб жа — той гасцінны бохан,
Які збліжае ўсіх людзей...

Зярнятак жменю рассяваю.

2 Зак. 3781.

* * *

Вы пытаеце: чаму пяю
Песню, што іграў Сымон-музыка?
Непакоюся за ўсю Зямлю,
Не магу пражыць я без'языка.

Вы пытаеце: чаму кую
Меч, які Іван у казках меціў
На дракона, цмока ці змяю?
Меч кую, бо цмокі ёсць на свеце.

Вы пытаеце: чаму люблю
Так, як Каліноўскі свет і волю?
Без любові я не запяю,
Не занепакоюся ніколі.

* * *

Ранак абудзілі пілы.
Рэха блудзіць па тайзе.
Завірусе ссеклі крылы,
За аленямі паўзе.

На прасецы вецер вёрткі
Разаслаў снягоў абрус...
А якуцкія вавёркі
Коцяць сонца ў Беларусь.

* * *

Белым буслам цішыня
Над сялом лясным плыве.
А ў сяле мая радня —
Клён з бярозаю жыве.

Напрасткі іду дамоў,
Слухаю размову дрэў.
Веру, што сустрэнуць зноў
Клён з бярозай на двара.

Хто цураецца радні,
Хто цураецца сяла,
Той, як птах без вышыні,
Той, як хата без цяпла.

## ВУЧАНЬ ЦЕСЛЯРА

На вопратцы бурштыніцца смала.
Мне дзядзька Коля усміхаецца.
А за сцяной вясёлая піла
З пілой маёй пераклікаецца.

Аблюбаваў вятрыска наш пакой,
Як гаспадар, падлогу ўжо мяце.
«Ну як працуе?» — чую за спіной.
І я пілую, аж піла гудзе.

* * *

Што такое шчасце,
Сытых не пытайце.
Запытайце лепей
Тых, што ўволю хлеба
Не заўсёды елі,
Цудам ацалелі...
Што такое шчасце,
Маці запытайце.

## НА ПЛОШЧЫ ПЕРАМОГІ

Я стаю ля Вечнага агню.
...Самалёт Гастэлы запалаў...
...Дзед з унукам абгарэлы ўстаў...
Чуў, чытаў, а бачу ўпершыню.
І агонь кастром жыве ля ног...
Пах смалы...
Палянай партызан
Бачу Плошчу цяжкіх перамог.

## СОНЦА НЕ ЗАХОДЗІЦЬ

Бохан сонечны з-за небакраю
Белая бяроза
дастае.
І, падняўшы ўверх,
перадае
Жаўрукам, што вышай падымаюць.

А пасля буслы над вёскай нашай
Коцяць
бохан сонца
па дубах.
А яшчэ далей, за роснай пашай,
Сонца коціцца па курганах.
Вечар.
За сталом сядзім у хаце.
Бацька з поля толькі што прыйшоў.
Бохан сонца бачу я ізноў —
Хлеб на чысты стол прынесла маці.

* * *

Іду з навостранай сякерай
У пажаўцелы шумны гай.
А раніца сарокай смелай:
«Галлё ля хаты пазбірай».
Услед глядзіць з узгорка вёска.
Рака ўздымае асаку.
Не замахнуся на бярозку
І нават кусцік не ссяку.
Іду, сціхаюць птушак спевы.
Туман за мной паплыў з ракі.
І бачна: восеньскія дрэвы
Сціскаюць лісце ў кулакі.

## ДЫЯЛОГ МАЦІ З ДАЧКОЙ

**(паводле народнага)**

— Не хадзі на сенажаць.
Дачакайся ранку.
У касца твая душа
Будзе паланянкай.

Усміхнулася дзяўчо:
— Янкі не баюся.
Моцна абдыму яго,
Дабрыні нап'юся.

— Ты не слухайся касца.
Ён не любіць, хлусіць.
Не ўратую ад хлапца
Я цябе на лузе.
І вось будзе гора мне
За цябе, дурную.

— Мама, ты кажы мацней,
Бо цябе не чую.

— Доня, крыху пачакай.
Дай хоць пацалую...
Ну, ідзі сабе гуляй.

— Вось цяпер я чую.

* * *

Сухмень ніколі не ў пашане.
Сумуе па дажджы пшаніца.
Пад казахстанскім сонцам вяне
Блакітны парастак крыніцы.

Уздыхваюць дарогі пылам:
Дзе хмары спяць —
ім невядома.
Мой родны дом за небасхілам,
Але я тут таксама дома.

Я аб дажджы вясёлым мару.
Нягучна зарыпела брама.
Крычыць казах:
— Глядзіце, хмара!
І радуюся я таксама.

## КРАНАЎШЧЫЦА

Што такая вышыня дзяўчыне?!
«Птушкі ж,— кажа, лётаюць вышэй».
Не ўзышла — ўзляцела па драбіне.
Крыкнула: «Ану, хлапец, жвавей!»

І панель цяжкую пад аблокі
Асцярожна падняла страла...
Мне цікава: з кім жа так высока
Ты апоўдні сонца падняла?

* * *

Балелі косці,
Нылі жылы,
П'янілі пахі сенажаці...
Сняданак на пракос лажыла,
Ручнік у пеўнях слала маці.

Я помню смак той першай стомы.
Ішоў дадому,
                як па кладцы,
Але ўжо зведаў падсвядома,
Што не пражыць і дня без працы.

* * *

Чародку хмар пасе жаўрук,
На дудачцы іграе вабна.
Лазняк,
        зімой сагнуты ў крук,
Сягоння выглядае зграбна.
Ніжы,
    ручай,
        мае сляды.

Упэўнены,
        раку пабачым.
Ручай шчасліва-малады,
Як меншы брат,
            за мною скача.

* * *

Вады азёрнай цеплыню
Я перакопваю вяслом.
Прывольна сонцу-птушаню
Па хвалях бегчы за чаўном.

Я парадняю берагі.
Чуваць: «Ну што прывёз з сабой?»
І дуб, які амаль сухі,
Рыпіць: «Парадуй навіной».

— У горад еду... Ставяць клуб...
Надыдзе хутка ўжо жніво...
Як дзед, сівою галавой
Ківае задуменны дуб.

* * *

А помніцца: рабілі скідку ў працы.
Хаця пятнаццаць мне было гадоў,
Але не мог я талакі цурацца,
Дзе ненавідзяць хітрасць гультаёў.
І сілу набіраючы штодзённа,
Дапамагчы імкнуся сябруку.
«Яшчэ малы»,— гаворыце і сёння,
А я, як палец меншы ў кулаку.

3 Зак. 3781.

## ПАРТЫЗАН У ПАЛОНЕ

Хоць вочы выбілі,
ён бачыць,
Дзе ворагі,
а дзе — свае.
Жалезам выпеклі гарачым
На спіне зорку.
Устае.
Тады яму зламалі ногі.
На целе ран не палічыць.
Шалеюць каты ад знямогі,
А ён маўчыць.
На брук, яго крывёй сагрэты,
На плач жанчын
спадае ліст.
— Хто ты?! — дымяцца цыгарэты.
— Я — камуніст!

* * *

Першага снегу святло,
Ты для мяне, як свята.
Сонца памалу ўзышло
З коміна крайняй хаты.

Вецер сцяжыну маю
Ноччу замёў на лузе.
Ціха на ганку стаю,
Снег патушыць баюся.

* * *

Пакрыўдзяць, а я не заплачу.
І толькі губу прыкушу.
Не я па сцяжыне праходжу,
Сцяжына цячэ праз душу.

Агонь раскладуць каля дрэва,
Мне рукі апаліць касцёр.
Нібыта хлапчук, я заплачу,
Захоплены гутаркай зор.

Я дома, я не заблуджуся,
Хай часам сцяжыну згублю.
І птушку суцешу малую,
І кіну зярнятка ў зямлю.

* * *

На полі гоман ля дубоў —
Вяскоўцы абступілі воз.
Стары з сасонніку дамоў
Малое ваўчаня прывёз.

— Што з ім збіраешся рабіць?
— З сабакам буду гадаваць.
— Навошта? Ваўчаня забі.
Забі, сівая галава!
— Не трэба ўжо мяне вучыць!
— Сярод ваўкоў знайшоў радню...

Ціхенька ваўчаня вурчыць,
Цалуе дзеду даланю.

## В+З=

Здаецца, што нядаўна ў школе
Табе запіску перадаў...
Шкада і сёння мне да болю —
Запіску я не дапісаў.
І зараз дапісаць спрабую...
Ды клінам маладых гусей
Удалеч «Л» вяслуе...
І ўсё далей,
далей,
далей...

## МІРСКІ ЗАМАК

Мірскі замак, як балада.
Не вятры пяюць,
А стрэлы —
Час вядзе сваю асаду.
Вось і брама зарыпела.

Пераможцамі турысты
Перапоўнілі сцяжыны.
Чую голас ганарысты:
«Я адбіў сабе цагліну».

— Мо і нам узяць, паслухай?
Ды сяброўка пабялела...
Ёй здалося:
праляцела
Прашчура страла ля вуха.

* * *

*Яўгену Гарадніцкаму*

Пакінуў вецер
Два лісты у хаце:
Адзін ад бацькі,
А другі ад маці.
Пруткі мільгаюць,
Быццам бліскавіцы —
Матуля вяжа,
І табе не спіцца.
Зноў бацька
Да вядра ідзе напіцца,
Рыпіць падлога,
І табе не спіцца...
Пакінуў вецер
Два лісты у хаце:
Адзін ад бацькі,
А другі ад маці.

* * *

Рака бярозы упадае
У ціхае азерца ў лузе.
Лістоў зялёныя крыніцы
Цалуюць сонечныя гусі.

Не так даўно з ракі бярозы
Траве пад ногі ціха ўпала
Рачулка мёртвая галінкі —
Яе сарока выпрамляла.

Ды веру: будучай вясною
Бярозавіка зноў нап'юся...
Пакуль цячэ рака бярозы,
Не абмялець азерцу ў лузе.

* * *

На мяккім узгорку падушкі
Світае снапок валасоў.
Нябёсы вачэй над дачушкай
Матуля схіліла ізноў.
Суседскаю рыжаю кошкай
У хату світанне глядзіць.
Гадзіннічак тупае ножкай.
Як шкода малую будзіць.
Ды вішня ў зялёнай кашулі
Загрукала ў шыбу: «Ідзі...»
Адзін пацалунак матулі
Малую уміг разбудзіў.

ЖЫТНЁВАЕ ПОЛЕ

Палетку вясна добра годзіць,
Рунёвае сонца ўзыходзіць.
Ды хочуць яшчэ уладарыць
Нягоды, сцюдзёныя хмары.
І нехта сцяжынаю болю
Падкрэсліў зялёнае поле.

## ПЛАЧА МАЦІ

Цыбулю мама у вянкі пляце,
Нібыта дочкам заплятае косы.
Ёй чуецца ў задумнай немаце
Гадоў забытых гоман шматгалосы.

## ЛЯСНОЙ ДАРОГАЙ

Ад снегу светла ў шэрым сасняку.
Сарока увязалася за мной.
Сцяжыны,
як рачулкі у раку,
Бягуць, каб стаць дарогаю лясной.

Нібыта ў ветразь,
у маю спіну
За дзень замораныя дзьмуць вятры.
Тут дзесьці блізка шум ракі заснуў,
Каля якога раскладаў кастры.

Мне зараз не хапае іх цяпла
І шуму задуменнае ракі.
Вядзі мяне,
дарога,
да сяла —
Сагрэюць добрым словам землякі.

## ВАДА

### I

Цалуе дрэвы сонца маладое.
Каса ступела,
Просіць адпачыць.
І конікі вясёлаю сям'ёю
Кляпаюць коскі —
Хочуць памагчы.

Ужо расу вятрыскі пазбіралі.
І кані просяць у мяне:
«Піць... Піць...»
Чаму раку капаць не памагалі?
Пад раскаю крыніца ціха спіць.

У роце перасохла,
Суха ў збане.
Усё вузей, вузей пракос вяду.
І брат малы мне крыкнуў нечакана:
«Я збегаю на хутар па ваду!»

### II

Міжволі ўспомніў:
З лесу пуцявіна
На хутарок да студні прывяла.
У шумны сад нас клікала маліна.
Яна як кропелькі зары была.

Даверліва між дрэў глядзела хата,
Буслы стаялі смела на страсе.
Няма гаспадароў — мы вельмі рады.
Ля студні пазбіраліся усе.

З цікаўнасцю грыбы ў ваду кідаем.
Пасля — усё, што пападзе рука.
Ды гаспадар:
«Ну, што там вытвараем?» —
З нас кожны без аглядак уцякаў.

III

Вада ў збанку глядзіць задумна ў вочы.
Як хочацца яе пацалаваць.
І кнігаўкі папіць таксама хочуць.
«Дасі і мне»,— нашэптвае трава.

І брат мой усміхаецца — ён рады.
Ад вуснаў аж праменіцца святло:
«Да дзеда Грышкі я хадзіў у хату,
Вады у студні
не было...»

І я не мог піць гэтую ваду.

* * *

Асіроцелы шпак у клетцы
Спяваць не хоча для людзей,
Не рад ён сонцу, першай кветцы.
Быў чорны — стаў яшчэ чарней.

Шпакоўня зноў прымацавана,
І ўлёгся вецер у траве.
Не зажывае ў птушкі рана,
Ды прага вышыні — жыве.

## ЛЕНІН ЛЯ РАЗЛІВА

І клаліся шырокія пракосы,
Як сцежкі, што асвечваюць Разліў.
На травах бачыў слёзы, а не росы
І думаў аб працоўных, аб зямлі.

Прыносіў часта прыбалтыйскі вецер
Нагаек свіст, народа громны крык.
Праз сэрцы чалавечыя па свеце
Ішло агніста слова «Бальшавік».

Прамень яго алоўка
у стагоддзі
Праменіў словы ўзнёсла давідна.
Той бачыў, хто ля возера праходзіў,
Як сонца узыходзіць з будана.

## ДАЛЁКА АД ВЁСКІ

Сябрам дзяўчаты шлюць лісты,
А мне не шлюць. Няма калі?
Цвітуць вуголлямі кастры.
Лятуць, як пісьмы, жураўлі.
Трава святкуе сенакос.
У копах дрэмле цеплыня.
Запрог вятрыска, нібы ў воз,
У хмару зорнага каня.
Хто ўспамінае гарады,
А я — вусатыя палі.
Сябрам дзяўчаты шлюць лісты,
А мне не шлюць —
няма калі.

## ДЗІКІ АГРЭСТ

Пікі вострыя ў агрэста
Дзеля самаабароны?
Каркаюць загучна нешта
Здрады чорныя вароны.
Совы страху глуш вартуюць.
Ад мяне ў дупло ўцякаюць.
Сцежку грэю я лясную,
Да бяссонца прывыкаю.
Ці агрэст мяне прызнае?
Дабрыню сустрэў у пікі.
Дабрыні мо не хапае?
Ён для ласкі вельмі дзікі.
Ад сарок вакол пярэста,
І стаю я нездзіўлёны:
Пікі вострыя ў агрэста
Дзеля самаабароны.

* * *

Адшумелі дажджы, адскакалі.
Ясным сонцам цвіце цеплыня.
Азярца неласкавыя хвалі
Па нагах б'юць майго скакуна.
Жаўрукі заспявалі — адчулі:
Пасвятлела ў мяне на душы.
Але толькі ў абдымках матулі
Уздыхну:
«Адшумелі дажджы».

* * *

Гараць апалыя лісты,
І дым галіны дрэў бінтуе.
Па садзе холад малады
З вятрыскам весела вандруе.
Сцяжына дрэмле ля агню —
За лета шмат папрацавала.
Цяпло ўцякае ў вышыню,
Сяброў у садзе
вельмі мала...
Дымяць апалыя лісты,
І над зямлёй гусцеюць хмары.
Вітаю холад малады,
А час слязой
бяжыць па твары.

* * *

Праз цябе, я знаю, праз цябе
Гэтак светла сёння на двары.
Вогнішча рабінніку дзяўбе
Снегірок — вясёлы сын зары.
Любая, усмешкі не хавай.
Валасы не запляці ў касу.
Хай вачэй світае сінява.
Я сняжынкі, як букет, нясу.
Не данёс. Букет расцвіў слязой.
На слязу увагі не звярні.
Паглядзі, над белаю зямлёй
Белы дзень на сонечным кані.
Ты ўсміхнулася, і мне святлей.

Снегірок, як меншы сын зары,
Падлятае да цябе бліжэй.
І яму ты ўсмешку падары.

* * *

Дамоў,
дамоў — ляскоча электрычка.
Дамоў,
дамоў — грукоча гулка гром.
І я гляджу: па шыбах кропель znічкі
Малююць сцежкі, што вядуць у дом.

Дамоў,
дамоў — да песні салаўінай.
Дамоў,
дамоў — да песні землякоў,
Пакуль прыходзіць сустракаць сцяжына,
Уплеценая ў хвалі каласоў.

* * *

Мінулым летам абмялела рэчка,
А гэтаю вясною знікла рыба.
Гавораць, гэта ад таго, што часта
Шафёры ў рэчцы сталі мыць машыны...
Цяпер да рэчкі з вёскі ўжо не ходзяць,
Вось толькі адзінокая бабуля,

Што ля ракі жыве ў сівенькай хаце,
Хоць зрэдку —
мые ў ёй бялізну, бульбу.
Усе здзіўляюцца, як гэта рэчка
Да сённяшняга дня не перасохла.
Я думаю, таму, што ля ракі
Жыве яшчэ сівенькая бабуля.

* * *

Абуджаць умею гоні,
Знаю, дзе зімуюць ракі...
Дзённік мой — мае далоні,
Мазалі — мае адзнакі.

* * *

*Хведару Чэрню*

Радзімая ваколіца,
Зялёная гара.
А сонца торбай коціцца,
Паўнюткаю дабра.
І нам у шчасце верыцца,
Як верыць нам сяло.
Сарока побач верціцца:
— Вам падзялю дабро.
Вачамі вокан квецяцца
У вішняках дамы:
— Святло у нас не дзеліцца,
Валожынскія мы.

* * *

Плот, як барыкада.
Што за плотам — не відаць.
Ці будан, ці хата?
Плот іхласты не спытаць.
Ля варот не хныкай
Ды і клямкай не штукар —
Вельмі злы сабака...
А які ж там гаспадар?

## У ГАСЦЯХ

Снегу белая іглiца
Ападае
густа з хмар.
Поле — завірух сталіца,
Сівер — грозны гаспадар.
Я гасцюю ў завірусі.
Шапку з галавы ў мяне
Сівер
скінуў
лёгкім рухам,
Стукнуў нечым па спіне.
Шапкай вочы выціраю.
Сівер падступае зноў...
Я на вёску паглядаю —
Уцячы б хутчэй дамоў.

* * *

Маўклівасцю ты не карай.
Твой голас, як вада ў пустыні.
Мне люба навальніц пара,
Маланак светлыя галіны.

Твая сяброўка цішыня
Даўно ўжо мне на крылы села.
Вясёлых думак ласяня
Са мной ідзе зусім нясмела.

Маўклівасцю ты не карай.
Няхай галініцца дарога.
Пра ўсё сказаць прыйшла пара,
Не замыкайся асцярогай.

* * *

Далёкі продак наш у цемры рос,
Са страхам узіраўся у сусвет.
А птахі узляталі да нябёс,
За імі стрэлы не ляцелі ўслед.

Ды смелы і мудрэйшы з іх,
Зрабіўшы крылы, кінуўся з гары...
І продкі ўсё ж адчулі хоць на міг,
Што людзі ўжо яны, а не звяры.

І колькі продак ні пускаў стралу,
Са зроку не губляў яе...
І ўсё ж яна пакінула Зямлю
І праз сусвет ракетаю плыве.

## ЦАЛУЕ МАЦІ СЫНА

Салдат прыйшоў дамоў.
Пад дубам ля адрыны,
Пад крыламі буслоў —
Цалуе маці сына.

На сонечным двары
Прыціхлі праз хвіліну
Вясёлыя вятры —
Цалуе маці сына.

Такі шчаслівы дзень!
Нібыта ўся Айчына
У хлопца ля грудзей —
Цалуе маці сына.

* * *

Пасля дажджу дарога палявая —
Як рэчышча ад высахлай ракі.
Мяне адзін вятрыска даганяе,
Насустрач мне імчаць грузавікі.
Нібы па хвалях, па ўзараным полі
Вандруе важна чарада буслоў...
І мне без песні немагчыма болей —
Па песню шчырую сюды прыйшоў.

* * *

Маладыя гады,
Маладыя жадання!..
М. Багдановіч

Белай хмарай вецер
Чыста неба выцер.
Засвяціла поўня,
Як святло ў акне.
А на лаўцы цесна.
Восеньская песня
Сад самотай поўніць.
Сэрцы хай міне.

Прарастаюць зоркі.
Цепліцца гаворка.
І твая усмешка
Птушкай чысціні.
Хай сярдуе вецер,
Застаёмся ў леце...
Маладая сцежка,
Маладыя дні.

* * *

У парку шумным ля дарожкі,
Дзе ходзяць парамі усмешкі,
Прыехаўшы аднекуль з вёскі,
Жанчына прадае пралескі.

— Прыгожая ў цябе дзяўчына...
На фабрыцы працуе Тома —

Рукой прыкрыла твар жанчына —
У год разок бывае дома.

І я адчуў, што нешта страціў,
Зляцела птушкаю усмешка.
Маўчу, нібыта ўбачыў маці,
Якая прадае пралескі.

## ПОЛЕ

Я — Поле,
Сонечнае Поле.
Я — Памяць.
Я — Жыцця Калыска.
Я перапёлкаю, ад болю,
Прасіла піць у хмары нізкай.
Мяне таптaлі танкі, коні,
І пад навалам градабою
Стагнала зноў і зноў ад болю.
І ў баразён маіх далоні
З крывёю гора век лілося.

Але шуміць...
Шуміць калоссе.

## ЛЯ ПОМНІКА КОЛАСУ

Я чую скрыпкі голас —
Сымон-музыка грае.
Пасля дарогі Колас
Прысеў, адпачывае.

Гартае кніжку вецер.
І кніжка, бачу, ветла
Сваёй душою свеціць.
Бярозам белым светла.

Любові ў сэрцы цесна.
Свайму не здраджу краю.
Нам Коласаву Песню
Сымон-музыка грае.

* * *

Тысячы гадоў назад
Нашу планету ўяўлялі
Плоскай, як даланя.
Магчыма, яна такой была.
Ды, відаць, з таго часу,
Як вынайшлі зброю,
Планета стала сціскацца...
І сціснулася ў кулак.

* * *

Буслы святкуюць дзень вясны.
Буслы прыносяць шчасце ў дом.
Каб шчасце зведалі яны —
Мы колы на дубы нясём.

Дзяды, бацькі зайздросцяць нам,
Дзяўчаты хваляць юнакоў...
Нібы буслянкаю, буслам
Павісла сонца між дубоў.

* * *

А я не плакаў, хоць губляў
Сцяжыну пад нагамі.
Хадзіў, бывала, без рубля,
Але хадзіў з сябрамі.
Я сумаваў, як сум праймаў,
Калі ішлі расстанні.
І ведаў: плакаць мне дарма,
Сябрам лягчэй не стане.
Не забываў былое ўсё,
Праз сілу не ўсміхаўся.
Ішоў і праз усё жыццё
Сяброў згубіць баяўся.

* * *

Болей дрывасекаў — меней дрэў.
Болей паляўнічых — менш звяроў.
Зорная мядзведзіца дрыжыць...
Мо з зямлі калісь яна ўцякла?

* * *

Сон прыходзіць да маці,
Прачынаецца боль.
Спраў хапае у хаце,
На планеце іх больш.
Як баімся мы страціць
У расінцы сусвет...
Супакоіцца маці,
Непакоіцца свет.

## БЯРОЗА

*Сяргею Законнікаву*

Ёсць край, дзе узышла Бяроза,
Вялікія там дрэвы ўсе.
Па полі болю хлопчык босы
Сявеньку поўную нясе.

Яму ўсміхаецца матуля.
І незаўважна сонца рой
Пакінуў небакраю вулей,
Усплыў над любаю зямлёй.

Ідуць гады, і свецяць росы.
З душы чуллівай прарасло:
— Пакуль жыве мая Бяроза,
Устань да сонца, сей святло.

## ПРЫЕДУЦЬ ДЗЕЦІ

Спякота гаспадарыць,
Не усядзіш ля хаты.
Ды з самага ўжо ранку
Суседка поіць грады.

Як толькі глыбінёю
Луг стане па калена,
Глядзіш: ужо на ўзмежку
Суседка косіць сена.

А як прадасць цялушку,
Дык кожны запытае:
«І для каго ж, Ганулька,
Ты грошыкі збіраеш?»

Старая усміхнецца.
Слязінкі не прыкмеціш.
І, як штогод, адкажа:
— Зімой прыедуць дзеці.

* * *

Усё яшчэ святлом
Не грае небакрай.
Ты, млын з адным крылом,
Рыпі, ды не махай.

Хай выйдзе з лесу лось,
Старая галава,
А ля чубатых лоз
Абудзіцца трава.

І сонца на рагах
Падыме лось з кустоў,
Што мне асвеціць шлях
Да песні каласоў.

* * *

Зайшла усмешка у купэ,
Пакінула мне шклянку чаю.
А я сягоння ад цябе
На самы край зямлі ўцякаю.

Танцуе лыжачка, звініць.
Праз фортку без білета вецер
Залазіць, просіць: «Не гані...»
Загрукаў мой цягнік увечар.

Ізноўку чую: «Ад'язджай...»
І колы ляскаюць: «Нялюбы...»
Я моўчкі п'ю халодны чай,
Балюча апякаю губы.

## У ЧАС ВУЧЭННЯЎ

Гудзе, як звон, заснежаны абсяг —
Ідуць, ідуць ваенныя машыны.
І слёзы заблішчэлі на вачах.

І стала ўзнёсла белаю зямля —
Выходзяць з хат ссівелыя жанчыны.

* * *

І толькі ў вёсцы знікла стома.
Жаўрук над садам заспяваў.
І на праталіне ля дома
Насустрач выбегла трава.

Ды толькі маці у абдымкі
Зноў першай узяла мяне.
Заціхлі, як на фотаздымку,
Браты малыя у вакне.

Узнёсла размаўляюць сэрцы.
Трава нам ногі абняла,
І кот глядзіць з прасторных сенцаў
І жмурыць вочы ад святла.

* * *

Ходзячы дарогамі зямнымі,
Прыкмячаю, што ў краях далёкіх
Гэтак, як і ў нас, красуюць кветкі.
Жыта спее, зелянеюць дрэвы...
Аднаго мне не хапае — мамы.

* * *

Я звязаны [redacted] табой, масток,
Сцяжынаю ад роднай хаты.
Глядзяць з цікаўнасцю ў наш бок
З літоўскай вёскі бусляняты.

І расступаюцца кусты —
На белагрывай шпаркай тройцы
Імчаць вясёлыя сваты,
Чырванатварыя малойцы.

Красуюць слёзы на вачах.
Цалуюцца сябры ля брамы.
І медалі на іх грудзях,
Глядзіш, цалуюцца таксама.

Гармонік кліча у садок,
То плача шчыра, то смяецца.
І нельга знішчыць наш масток —
Ім звязаны людскія сэрцы.

* * *

Ёсць на Валожыншчыне
вёска Пугачы,
Дзе рэчышчы сцяжын
не зараслі ў лугах,
У агародчыках красуюць касачы,
Буслы
На захад
Сонца коцяць па дубах.

У сэрцах ёсць таксама
Вёска Пугачы,
Таму сцяжыны не губляюцца ў лугах,
У агародчыках красуюць касачы,
Буслы
На захад
Сонца коцяць па дубах.

* * *

Плача маці. Я хварэю.
— Мо лягчэй табе, сынок?
Усміхнуўся я, пацею.
І баяцца слёзы шчок.
— Ну, а як жа ты, матуля?
Ці прыйшла ў сяло вясна? —
Голас хрыплы мой
пачулі
Яблыні каля акна.
Вось і пасвятлела ў хаце.

Штось расказвае мне маці.
Я ўсміхаюся. Лягчэй.

* * *

Пагарэлі ў небе хмары.
Вецер з дрэў страсае пыл.
Спёка сёння гаспадарыць —
Падпаліла небасхіл.

Журавель не даў напіцца,
Лашчыў я яго дарма.
Штось на захадзе дыміцца...
Ні душы ў сяле няма.

На машыне хтось імчыцца.
Следам пыл ажно кіпіць.
— Дай, браток, папіць вадзіцы.
— Лес гарыць!

* * *

Зайздрошчу зоркам, што даўно згарэлі,
А іх святло ў сусвеце ўсё ідзе.
Далёка зоры...
                    Продкі ўверх глядзелі,
Каб у дарозе не блудзіць нідзе.

* * *

Дамоў прыехаў я з надзеяй
У роднай хаце адпачыць.
Чаромхі весняя завея
Мне асвятляе далячынь.
Ля ворыва гамоняць сосны,
За мной дубы ідуць праз луг.
І нараджаюцца барозны,
Дзе гаспадарыць бацькаў плуг.
Нібы да рук шурпатых друга,
Маіх далоняў мазалі
Прыцягваюцца зноў да плуга,
А плуг —
            да роднае Зямлі.

* * *

Ноч адкрасавала.
Спорны снег,
Як пялёсткі зорак,
Ападае.

Шаргунцы звіняць.
Вясёлы смех.
Шумная
Дарога палявая.

Разбягаюцца
Кусты ў бакі.
І махаюць
Нам услед з табою.
Сэрца
Шаргуночкам пад дугою.
Раніца ў цябе
На дзве пгчакі.

* * *

Мялеюць рэкі, сохнуць травы, дрэвы.
І стала маласнежнаю зіма.
Здаецца, пацішэлі птушак спевы.
Маўчыць зязюля, быццам і няма.
Хто вінаваты ў гэтым, адкажыце?
Я ведаю: нялёгка адказаць.
Маўчыць зацята перапёлка ў жыце.
Няўжо ёй ножкі болей не баляць?
Шукаем прагна неруш і адказы.
— Глядзіце, зерне верабей дзяўбе...
Але усё ж чаму, чаму ні разу
Я вінаватым не лічыў сябе?

## БУСЛЫ СКАРЫНЫ

Усміхнуўся малады друкар.
Кніга, нібы бусел, на руках
Разгарнула крылы, каб ляцець.
Беларусь свяцілася ў радках.
Не забілі градабоі іх,
Не спалілі лютыя кастры...
І у слове родным «Беларусь»
Свецяць нам Скарынавы буслы.

* * *

А мяне не патрэбна Вам клікаць.
Я, як добрая думка, прыйду.
Хутка ўжо
З маладою сцяжынай
Я праз далеч да Вас прарасту.

Прыпынюся ля Вашага дома.
Нібы ў неба, ў вакно пагляджу.
Стома зваліцца следам за шапкай.
І на ласку наладжу душу.

У халаціку, выбегшы з кухні,
Вы прамовіце некалькі слоў:
«А цябе я не клікала сёння...»
— Я, як добрая думка, прыйшоў.

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Вечалле прасвечана,
Як сляза матулі.
Выбухамі сечана,
Хвалі не заснулі.

Гай задумліва стаіць.
Ля вады дрыготка.
Човен у тумане спіць
Бацькавай пілоткай.

З раніцаю радзіцца
Бусел над зямлёю.
І сяброўства ладзіцца
З полем і сяўнёю.

Сцежка ў белы свет бяжыць,
Думкі — да хатулі.
Плешча Вечалле душы
Песняй пра матулю.

* * *

Ад марозу пасівелі травы.
На усходзе раніцы касцёр
Раздзімае вецярок рухавы.
Ціха поўніцца святлом прастор.

Цішыню над вёскай раскалолі
Вострым клінам суму жураўлі.

У дарогі зашумела сцежак голле —
Сны на хмарах [illegible] ноччу адплылі.

Як ільдзінкі, лісце пад нагамі.
Цені паслізнуліся, ляжаць.
Сонца з лісцяў выдзьмута вятрамі.
Журавом параненым душа.

## ПАМЁР ЧАЛАВЕК

Ідзе гадзіннік —
Цік-так, цік-тук...
А мне думаецца —
Няўмольны час
Забівае дзверы
У наша мінулае.

Ідзе гадзіннік —
Цік-так, цік-тук...
Таму, хто жыве
Па прынцыпу:
«Час — грошы»,
Здаецца — час
Лічыць грошы.

Ідзе гадзіннік —
Цік-так, цік-тук...
Так забіваюць цвікі...
Цік-так, цік-тук...

* * *

Галлё збіраць не паспяваю.
Кастру не весела расцецца.
У цемры гаспадыняй гаю
Сава
усё з мяне смяецца.

Крычыць: ссячы хаця б асіну,
Табе я дазваляю гэта.
Я на вуголле цень свой кінуў,
Мне месяц распаліла лета.

Ды ціхі месяц толькі неба —
Сваё гняздзечка ацяпляе.
Ссячы, відаць, асіну трэба...
Ды штось сячы не дазваляе.

* * *

Першы снег, нібыта шчырасць
Звонкай маладой зімы.
Весела над белай вёскай.
Аж да хмар растуць дымы.

— Запрагай каня у сані,
Абудзі дарогу, брат.
Мы з табой у свет паедзем
І ці вернемся назад.

А званочак пад дугою
Ветру пра сябе звініць.

Весялей спявайце, сані.
Сонца ўслед ляціць, зірні.

Толькі конь наш стаў спыняцца.
Вернемся дамоў, відаць.
Палазні на чыстым снезе
Нацягнуліся, трымцяць.

* * *

Вясна ў цябе вавёркай
Сядзіць на плечуку.
Упала
        шышка зоркай
На сцежку, як раку.

І конікі, як пырскі,
Успыхнулі вакол.
І рэха птушкай блізка
Крылом кранула дол.

Вясёлая сарока
Замест праваднiка.
Ідзеш па Налібоках
Дачкой лесавіка.

* * *

Холад ля хаты пасе снегіроў.
Сонца замецена снегам у полі.
Бацька дадому сцяжыну прывёў,
Следу не бачна ва ўсім наваколлі.
Аб даланю ён цярэ даланю,
Тупае весела, курыць цыгарку.
Маці гаворыць: «Ідзі да агню».
Бацька смяецца: «А лепей бы чарку».
Мурзік на печы ля нас не ўсядзеў,
Скочыў да бацькі за стол, на калені.
Воўну і песню матуля прадзе,
Не заўважае слязы ў задуменні.
Гэты малюнак прыпомніўся зноў.
Аркуш паперы ў мяне прад вачамі.
Полем, дзе сонца пад беллю снягоў,
Песня матулі плыве за плячамі.

* * *

Пасадзіў ля гаю куст агню.
Грэюся з вандроўнымі вятрамі.
Травы не ўтрымалі цішыню —
Зазвінелі росы за плячамі.

Толькі зноўку не хачу гукаць
У тумане страчаную сцежку.
Восеньскі лісток маладзіка,
Як твая далёкая усмешка.

* * *

Прапахлі скошанай травой
Вятры, вандруючы па скверы.
Між лавачак ідзе з касой
Мужчына, добра пасівелы.

Каса не хваліцца лязом,
У горадзе ёй адзінока.
Услед спяшаю за касцом —
Трава не вырасла глыбокай.

— Ты што, ідзеш дапамагаць?
Я вочы моўчкі апускаю.
На лаўках юнакі сядзяць...
Касцоў у вёсках не хапае.

* * *

Не наступлю вясною на ручай.
Святло пралесак я не патушу.
Карэннямі зялёны шумны гай
Трымаецца і за маю душу.

І будуць птушкі радасна лятаць,
Яны пазнаюць брата ува мне.
Калі і заблуджуся — не бяда,
Не прападу у роднай старане.

Хай стома пасівее на плячах.
Не упадзе вясёлы мой настрой.
Нібы за песню ў паднябессі птах,
За светлы гай трымаюся душой.

* * *

У печцы варыцца агонь.
З яе цяпло плыве ў пакой.
Я на далонь паклаўшы скронь,
Сяджу сам-насам з цішынёй.

* * *

Патух касцёр зары.
І вырас з ценяў вечар.
Пра шчасце гаварыў
Вандроўнік вечны вецер.

А я сцяжыну вёў,
Што працавала ў полі.
Казаў кустам: «Здароў!»
Слоў не знаходзіў болей.

Сябры ішлі са мной.
Прыемна рукі нылі.
І зоркі над зямлёй,
І мазалі свяцілі.

* * *

Трава жыве на валуне,
Глядзіць расой удалячынь.
Там коннікі ўзвірылі пыл,
Дарозе весела цячы.

Маланкі трэшчын на шчытах,
А на мячах чужая кроў.
Там за ракою на зямлю
Садзіцца хмара груганоў.

І аб сынах зямлі
звaны
Гавораць небу
ўсё гучней.
Прамчалі коннікі,
і пыл
Замёў траву на валуне.

* * *

Вясной люблю блукаць па сасняку,
Калі яшчэ ляжыць ля дрэваў снег.
Прайшоў крыху, а па слядах вада,
Нібы ў маленькіх студнях, заблішчыць.
І думаю: услед ідзе вясна.

* * *

Зорак назбіралі птахі,
Распалілі сонца на усходзе.
І цяпер начныя страхі
Гутаркай вятроў за мной не ходзяць.

Зноўку ноч ціхуткім ценем
За мяне хаваецца пужліва.
А зара вялікім пеўнем
Крылы распраменіла шчасліва.

Сябраваць з дарогай, верыць,
Што і сам ты — ўвышыню дарога,
Раніцою любавацца шэрай...
О, як гэта многа!

## ЗМЕСТ

**Шніп В.**

Ш 77 Гронка святла: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 54 с., іл.— (Першая кніга паэта).

20 к.

Вершы пра будаўнікоў і пра родную вёску Пугачы, што на Валожыншчыне, пра надзённы клопат сучасніка і пра маці склалі першы зборнік здольнага паэта.

Добрая мова і дакладны радок, акрылены думкай, вылучаюць паэзію Віктара Шніпа ў шматгалосым хоры маладой паэзіі.

$Ш\frac{4702120200-140}{М\ 302(05)-83}$ 82—84

ББК 84Бел7
Бел 2

*Первая книга поэта*

**Виктор Анатольевич Шнип**

**СОЛНЕЧНАЯ ГРОЗДЬ**

**Стихи**

**Минск, издательство «Мастацкая літаратура»**
**На белорусском языке**

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк. Мастак У. У. Даўгань. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Л. П. Бялова.

ІБ № 2043
Здадзена ў набор 13.06.83. Падп. да друку 07.09.83. АТ 08271. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,05. Ум. фарб.-адб. 3,66. Ул.-выд. арк. 1,82. Тыраж 2000 экз. Зак. 3781. Цана 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.